Гомельская дзіцячая газета

# Крынічка

№10 (30) Лістапад 2000 г.



**БЕЛАРУСКАЕ РОДНАЕ СЛОВА**

Адкрываю,
як свет,
нанова
беларускае
роднае слова,
пералівістае —
як каменьчык,
вясёлкавае —
як ручэй,
цёплае —
як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае —
як маланка,
гнеўнае —
як пярун,
ціхае —
як калыханка,
вечнае —
як Беларусь!

*А. Канапелька*

**Я БЕЛАРУС**

Беларусам я радзіўся,
Беларусам буду жыць,
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць.
Бо радзімая старонка
Над усё мне прыгажэй,
Беларуская гаворка
Над усё мне даражэй.

*А. Мілюць*

Чытайце ў нумары!

Беларуская кераміка

Вершы

Дасуг з экалогіяй

Крыжаванкі

Смяшынкі

**Гісторыя беларускай керамікі бярэ пачатак з глыбокай старажытнасці. Яе вытворчасці і развіццю спрыяла наяўнасць высакаякасных пластычных глін на ўсёй тэрыторыі Беларусі.**

**Працавітасць і прыродны талент народа дазволілі старажытным майстрам-ганчарам стварыць сапраўдныя шэдэўры керамічнага мастацтва, якія здзіўляюць сучаснікаў бездакорным густам, вабяць хараством форм і дэкору.**





# Беларуская народная кераміка –

Мастацтва беларускіх майстроў славілася і далёка за межамі беларускай зямлі. У XVII ст. многія майстры, такія, як Сцяпан Палубес, Пётр Заборскі, Ігнат Максімаў і іншыя, працавалі ў Маскве над афармленнем храмаў, палацаў. Працуючы над сваімі творамі, яны ўкладвалі ў іх усё сваё майстэрства, талент і ўменне, што пакінула прыкметны след у сусветнай мастацкай культуры.

Асабліва пашыраным матывам традыцыйнай беларускай цацкі былі адлюстраванні асядланых коней, птушак, мядзведзяў.



Забаўныя львы, мядзведзі, бараны ствараліся ў Ракаве. Гэтыя цудоўныя традыцыі сёння працягваюць народныя майстры Івянца М.Звярко, П.Скрыпко і іншыя.

Індывідуальнасць народных майстроў, іх актыўны ўдзел у творчым працэсе ў значнай ступені ўздзейнічаюць на творчасць мастакоў прафесіянальнага мастацтва.

Гаспадарчыя і дэкаратыўна-прыкладныя вырабы з гліны выконвалі ганчары. Пазнаёмімся з некаторымі вынікамі працы ганчара. І хаця “не богі гаршкі лепяць”, усё ж атрымліваліся ганчарныя вырабы прыгожымі і зручнымі.

Посуд рабілі ў розных месцах, таму ён адрозніваўся сваёй формай і аздабленнем. Кераміка падзялялася на гартаваную, паліваную, чорназадымленую.

*Гарлачы* прызначаліся для захавання малака і малочных прадуктаў.

*Гаршкі* рабілі для гатавання гарачых страў. У іх варылі дзецям кашу. Два ці тры змацаваныя ручкай гаршка называлі *спарышамі*, яны ўжываліся для таго, каб занесці ежу ў поле.

У *гляках* захоўвалі алей, квас, ваду. З той жа мэтай, што і гарлачы, ужываліся *збанкі*, але яны выдзяляліся выцягнутым тулавам, звужаным горлам, дзюбкай і вушкам-ручкай.

У *слоіках* захоўвалі мёд, тлушч, смятану, варэнне і іншыя прадукты. Бакі ў слоіках былі пукатыя, радзей прамыя, горла шырокае.





# мастацтва гліны і агню





*Макацёр* уяўляў сабою глыбокую гліняную пасудзіну з шырокім вусцем для расцірання прадуктаў, а таксама для гатавання ежы ў печах, заквашання цеста.

*Кубкі* (конаўкі, кварты) прызначаліся для таго, каб піць з іх ваду. Яны мелі цыліндрычную ці бочкападобную форму і ручку.

Традыцыйным ганчарным вырабам былі міскі, якія ўяўлялі сабой глыбокую круглую пасудзіну для ежы.

З гліны рабілі дзіцячыя цацкі (кошкі, пеўнікі, качкі, бараны, сабачкі)...



***Вырабы народных майстроў не толькі задавальняюць патрэбу насельніцтва ў бытавых рэчах, але і экспануюцца на рэспубліканскіх і замежных мастацкіх выстаўках побач з творамі прафесіянальных мастакоў.***



## Дзень добры, мае маленькія чытачы!

Я, Джэмі Джэм, рады новай сустрэчы з вамі.

А ведаеце вы, як размаўляюць жывёлы і птушкі? Не? Тады слухайце.

У жывёл і птушак, як і ў чалавека, ёсць свая мова. Размаўляюць яны не словамі і не сказамі. Вучоныя адкрылі, што ёсць на свеце мова пахаў, гукаў, рухаў, колераў, святла...

Птушкі, напрыклад, могуць размаўляць хвастамі. Вось ідзе па бярозе пліскаўка, ківаючы хвастом. Раптам хвост яе робіцца веерам, і неўзабаве каля пліскаўкі з"яўляецца другая, якая "прачытала" запрашэнне прыляцець...

Пакуль снегіры сядзяць спакойна, яны не размаўляюць. Але вось яны вырашылі пераляцець у іншае месца. Тады на паясніцы ў птушак з"яўляецца белая плямка, якой не было дагэтуль. Гэта азначае: рыхтуйцеся да палёту.

Зрэшты, птушкі могуць падаваць разнастайныя каманды: "Месца занятае", "За мной", "Трывога", "Стой, не варушыся".

Вось такія адкрыцці можна зрабіць, калі ўважліва назіраць за нашымі сябрамі – жывёламі і птушкамі.

**ПРЫКАЗКІ**

***Лістапад — вароты зімы, ён ёй родны бацька.***

***Увосень за стол просім.***

## З кім размаўляе Знайка?

***Каб даведацца аб гэтым, упішы ў кружочкі тэлефоннага дыска па парадку першыя літары назваў намаляваных звяроў або птушак.***




**НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ**

***Лістапад сцюжаю багат.***

***У лістападзе снегу навее — хлебу прыбудзе.***

***У лістападзе кладуць капусту ў кладзі.***

**ЗАГАДКІ**

***Без рук, без ног, а кветкі малюе.***

***Ляцелі сівыя галубкі, упалі на ваду, вады не скаламуцілі і самі не паляцелі.***

***На вадзе радзіцца, а вады баіцца.***

***Зімой расце коранем уверх, а вясной памірае.***

***Дыхае, расце, а хадзіць не можа.***

# Дасуг з экалогіяй




## Крыжаванка

**1** *(па вертыкалі)* гаспадар леса
**1** *(па вертыкалі)* ласунак мядзведзя
**2** яна адкідае хвост
**3** санітар леса
**4** дліннавухі баязлівец
**5** рыжая, арэшкі грызе
**6** хвойнае дрэва
**7** лясны кабан
**8** самы магутны звер у Беларусі



## Мядзведзі – гаспадары леса

А зараз – крышачку пра жывёл, менавіта пра мядзведзя. Пра яго прыдумалі шмат казак. А які ён на самай справе, мядзведзь не казачны?

У нашых лясах жывуць бурыя мядзведзі – гаспадары леса, самыя моцныя са звяроў. Толькі лось ды кабан могуць памерацца з імі сілай.

Мядзведзь любіць усё. Ён есць карэньчыкі, ягады, розных мелкіх звяркоў. Ён вялікі ахотнік да ўсяго салодкага, напэўна, як і вы, сябры. Мішка разбурае гнёзды дзікіх пчол і лакаміцца мёдам. Напэўна, яго таму так і празвалі – мядзведзь – мёдаед.

Ці знойдзе ў лесе муравейнік, засуне туды лапу, мурашы аблепяць яе, а мішка злізвае іх, аж жмурыцца ад задавальнення. Любіць мядзведзь і рыбу.

Восенню, нагуляўшы тлушчу, мішка шукае сабе берлогу. Доўга, як заяц, пятляе і запутвае сляды, каб ніхто не ведаў, дзе ён будзе зімаваць.

Зімуе мядзведзіца разам з мядзведзянятамі ў адной бярлозе. Зімой, у студзені ці лютым, у старэйшых мядзведзянят паяўляюцца маладыя брацікі і сястрычкі, зусім маленькія, памерам з рукавічку.

Вясной мядзведзі выходзяць з бярлогі. Старэйшыя мядзведзі наглядаюць за маленькімі, іх так і называюць – пестуны – выхавацелі.

Вось такі ён, наш мядзведзь – гаспадар леса.

Мяркую, табе спадабаўся мой расказ. Да новай сустрэчы!

## Суседзі

Сарока і сава – суседзі. Жывуць яны на адной сасне: сава ў дупле, а сарока на вяршыне.



Увечары, калі сарока кладзецца спаць, сава прасыпаецца і ўсю ноч крычыць, не дае спаць суседцы.

– Я табе адпомшчу! – злуецца сарока. – Хай толькі надыйдзе дзень…



І раніцай, як толькі сава залезла ў дупло, сарока-белабока падымае такі шум, так стракоча, што беднай саве хоць вушы затыкай. І такая калгатня ў іх кожны дзень і кожную ноч.

– Ну і суседзі! – смяюцца жыхары леса.

## Лісты чытачоў
(дзяцей і дарослых)

### А дзіцяці не вераць...

Часта бацькі сваім недаверам штурхаюць дзіця на такі крок, які б ён ніколі сам не вырашыў зрабіць. Прывяду прыклад.

Калі я вучыўся у чацвёртым класе, то летам пасвіў кароў з сябрамі, якія курылі. А мяне к табаку не цягнула. І бацька мой курыў. Аднойчы ён прынёс тры цыгарэты і паклаў іх на печ. А цыгарэты былі ў тыя гады вельмі каштоўныя. І вось адна з цыгарэт кудысьці знікла. З дзяцей у хаце я быў самы вялікі, ды і сябры мае курылі. Таму і ўпала на мяне падазрэнне – цыгарэту ўзяў я, нікому больш яна не патрэбна.

Дарэмна я казаў, што ні ў чым не павінен. Мяне моцна наказалі... І за тое, што "рана пачаў курыць", ў за тое, што "стаў ворам". А праз некалькі дзён цыгарэту знайшлі пад ложкам – яна туды закацілася. Але мяне зноў абвінавацілі, на гэты раз у тым, што я яе падкінуў. Добра хоць не пакаралі ў другі раз.

Не, злодзеем я не стаў, але абіда засталася ў сэрцы на ўсё жыццё. Навошта я гэта ўспомніў?

Мне часта даводзіцца бачыць, як у чымсьці малыш апраўдваецца перад дарослымі, а яму не вераць. І як мне хочацца ў такія імгненні крыкнуць гэтым "выхавацелям": "Спыніцеся, зараз вы сееце зло! Ваш сын ці дачка яшчэ не ўмеюць хлусіць, а вы самі тым, што не верыце, штурхаеце дзіця да хлусні. І хто ведае, к чаму яшчэ!..."

**В.КУРАПАЎ.**




### Бацькі не слухаюць мяне...

У нашай сям"е чатыры чалавекі: маці, бацька, я і брат. Маці і бацька кураць.

Я не лічу, што гэта іх справа.

Яны нам, дзецям, дрэнны прыклад падаюць.

Мой брат (яму шэсць год) аднойчы таксама ўзяў у рот цыгарэту.

Я не стала расказваць аб гэтым бацькам і сама растлумачыла брату, што гэта вельмі дрэнна.

Але я не ўпэўнена, што ён зразумеў мяне.

Калісьці бацька ў дзяцінстве даваў і мне "курнуць" раз, другі. Цяпер я не пераношу паху дыма, задыхаюсь, калі хто курыць радам.

Але бацькі робяць выгляд, што не заўважаюць гэтага.

Шмат разоў я прасіла бацькоў кінуць курыць, каб не сапсавалі сваё здароўе, але яны на мае словы не звяртаюць увагі.

Што рабіць? Як вы лічыце?

**Іра П.**

### Паспрабуйце самі

Вялікая колькасць старшакласнікаў з цяжкасцю пішуць у сшытках першыя словы.

Дзецям не лёгка даецца гэтая справа.

А дарослыя нас ругаюць: "Пішы лепш, няўжо не можаш?"

А калі самі паспрабуеце чаму-небудзь навучыцца, напрыклад, вязаць кручком ці спіцамі?

Вельмі цяжка на першых парах – не ўтрымаеш правільна ў руках спіцы, быстра стамляюцца пальцы, спіна, вочы...

Не адразу авалодаеце вы прымудрасцямі вязання.

Тады вы, можа, паспачуваеце сваім дзецям і перастанеце іх ругаць.

**Т.МАРКЕЛАВА.**

**Ці дойдзе кот да рыбы?**



**З**рабі цацку сам з яечак кіндер-сюрпрыза!



**П**адлічы, колькі тут мышанят





*Хто каму тэлефануе?*

**У гэтым доме жывуць лічбы. Адны з іх зараз гуляюць, іншыя – у хаце. Дзе жывуць тыя лічбы, якія зараз гуляюць, калі вядома, што сума лічбаў у кожным раду і кожным стаўбцэ аднолькавая. Дарэчы, чаму яна роўная?**




## Смяшынкі



### Размаўляюць дзеці

***Сяроха, 3 гады***

Разглядае далонь, паказвае на сярэдні палец:
-Толькі адзін і вырас, а гэтыя яшчэ не выраслі...

***Алік, 2 гады***

Маці перад сном дапамагае яму скінуць майку:
-Рукі ўгору!
У адказ-Рускія не здаюцца!

***Сяроха, 4 гады***

-Маці, а дзе бабуля дом ўзяла?
-Купіла.
-Як?
-Багата грошай аддала і купіла-А як яна яго з крамы данесла?

***Саша, 3 гады***

На скаварадзе пякуцца кураняты.
Накрыўка для цяжкасці прыціснута прасам.
Саша гаворыць ў захапленні:
-У нас на вячэру печаны прас!

## Крыжаванка «САРАКАНОЖКА»

***ПА ВЕРТЫКАЛІ:***

1. Чым мы мыем рукі?
2. Геаметрычная фігура.
3. Каго паймаў Ямеля ў казцы?
4. Гэта калі рыба добра ловіцца.
5. Яхта капітана Врунгеля.
6. Куды пасылаюць "божую кароўку"?
7. Калючы клубок.
8. Акцёр, выканаўца адважных герояў у амерыканскіх баевіках (Брус ...).

***ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:***

1. Куды пасадзіла Салоха сваіх гасцей (у аповесці Н.В.Гогаля)?
3. Хто сказаў "гаў"?
5. Трапічны фрукт, які ўсе любяць.
9. Зброя ў пчалы.
10. Птушка – сваячка вароны.
11. Слова, якое ўжывае настаўнік перад пачаткам тлумачэння задання.
12. Увечары ў вокнах загараецца ...




Дзіцячая газета КРЫНІЧКА

Над нумарам працавалі:
Валянціна БУДНІКАВА,
Таццяна ШУЛЬГА (адказная за выпуск)
Наш адрас: 246036, г.Гомель, вул. Б.Хмяльніцкага, 93 - 6.
Наклад – 250 экз.

*Шчыра дзякуем аб'яднанню «Грамадзянскія ініцыятывы» за дапамогу ў выпуску нумара!*